# 15 ГОД НАРОДНАЙ УЛАДЫ

Сена 60 гр. Цана 60 гр.




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 29 (177) БЕЛАСТОК. 19-22 ЛІПЕНЯ 1959 года ГОД IV

## ВЯЛІКАЕ СВЯТА АДРАДЖЭННЯ

**15** год тому назад у цяжкіх баях з гітлераўскімі захопнікамі нараджалася вялікае Адраджэнне польскага народа і ўсіх народнасцей, якія жылі з польскім народам супольна і супольна змагаліся за вызваленне.

22-га ліпеня 1944 года ў Любліне, на невялічкім кавалачку польскай зямлі, заснавалася Польская Народная Рэспубліка. Пачала паўставаць да жыцця дзяржава, аб якой марылі дзесяткі год працоўныя Польшчы, жорстка змагаючыся за яе ажыццяўленне з царскімі сатрапамі і сваімі магнатамі.

Польскі Камітэт Нацыянальнага Вызвалення ў сваім гістарычным Маніфесце абвясціў усяму свету аб утварэнні ўлады рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі, а таксама палітычную і гаспадарчую праграму гэтай улады. Асноўным, першачарговым заданнем улады і ўсяго народа было вызваленне ад гітлераўцаў усёй польскай тэрыторыі. З польскіх дывізій, якія ўтварыліся ў Савецкім Саюзе паўстала Людовае Войска Польскае, якое супольна з Савецкай Арміяй вызваліла ўсе польскія землі ад гітлераўскіх захопнікаў.

Тымчасовы ўрад Польскай Народнай Рэспублікі прыступаў да загаспадаравання кожнай вызваленай тэрыторыі. Але нялёгкай была гаспадарка ў першыя гады. Трэба было пераадолець не толькі шмат цяжкасцей, але і шмат вялікіх перашкод. Хоць франтавая барацьба была закончана ў маі 1945 года, то ўсё ж-такі яшчэ некалькі год працягвалася жорсткая барацьба з усялякімі фашысцкімі бандамі, якія былі інспіраваны заходнімі імперыялістычнымі кругамі.

Край быў зруйнаваны і акрываўлены. Трэба было хутка лячыць цяжкія раны нанесеныя гітлераўцамі. І ўвесь народ нашай краіны самаахвярна прыступіў да адбудовы знішчэнняў і будовы новай, шчаслівай будучыні. Наш вялікі прыяцель, Савецкі Саюз, не толькі вызваліў нас ад гітлераўскіх захопнікаў, але даў нашай краіне вялікую дапамогу ў яе адбудове. І дзякуючы гэтай дапамозе мы маглі так хутка не толькі адбудаваць, але і разбудаваць сваю гаспадарку.

15 год Народнай Улады пераўтварылі Польшчу з краіны эканамічна адсталай у краіну прамыслова - аграрную. Пабудаваны трывалыя фундаменты да далейшага гаспадарчага і культурнага развіцця краіны.

Усе гэтыя вялікія дасягненні з'яўляюцца плёнам ахвярнай і цяжкай працы рабочага, селяніна і інтэлігента. І таму працоўныя Народнай Польшчы з гонарам аглядаюць пройдзены пятнаццацігадовы шлях пабудовы новага жыцця.

Мы — беларусы — пражываючыя ў Польскай Народнай Рэспубліцы з'яўляемся жывой актыўнай часткай народнай дзяржавы. З польскім працоўным народам звязалі мы свой лёс у супольнай барацьбе за вызваленне, а таксама ў адбудове і разбудове краіны.

Мы гэтым ганарымся і таму з вялікай радасцю святкуем пятнаццатую гадавіну Польскай Народнай Рэспублікі.

Дзякуючы ленінскай палітыцы Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі мы не толькі атрымалі права людзьмі звацца, але як роўныя з роўнымі, плячо ў плячо крочым у светлую будучыню.

Мы — беларусы — у асноўнай масе пражываем на Беласточчыне. Пятнаццаць год мы супольна з працоўнымі палякамі пераўтваралі Беласточчыну з «Польшчы Б», якой яна была пры санацыі, у роўную частку нашай, будуючай сацыялізм, краіны.

Сумна выглядалі гарады і вёскі Беласточчыны пасля вайны. Вакол руіны і знішчэнні. Але гэта ўжо належыць да мінулага, якое не вернецца. Зараз нашае заяводства з'яўляецца вялікай плошчай будовы. Як грыбы пасля дажджу, усюды растуць новыя жылыя дамы, прамысловыя аб'екты, школы. Будуюцца прамысловыя камбінаты (Фасты, Замбраў). Пабудавана 50 вялікіх і сярэдніх прамысловых прадпрыемстваў. Паважна ўзняўся ўзровень сельскай гаспадаркі ў параўнанні з даваенным перыядам. Расце ўзровень культурнага жыцця. Дзеці сялян маюць адчынены дзверы не толькі ў сярэднія, але і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Беларусы, за часоў санацыйнай Польшчы, не мелі ніводнай беларускай пачатковай школы. Сёння ў Народнай Польшчы нашы дзеці ў 170 пачатковых і 5-ці сярэдніх школах вучацца роднай беларускай мове. Маем беларускую філалогію ў Настаўніцкай Студыі ў Беластоку і Кафедру беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. У самай толькі Варшаве звыш 200 студэнтаў – беларусаў здабываюць веды ў розных вышэйшых навучальных установах. На працягу 15-ці мінулых год сотні беларускай моладзі здабылі ўжо вышэйшую адукацыю і працуюць па ўсёй краіне інжынерамі, лекарамі, аграномамі і іншымі.

Існуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое вядзе шырокую культурна - асветную дзейнасць сярод беларускага насельніцтва. Маем добры, 70-асабовы беларускі народны калектыў песні і танца ў Беластоку і 70 гурткоў беларускай мастацкай самадзейнасці ў паветах. У бібліятэках штораз больш прыбывае беларускай літаратуры. Маем свой беларускі часопіс — тыднёвік «Ніву», які свабодна піша аб усіх нашых цяжкасцях і дасягненнях. Маем літаратурнае Аб'яднанне нашых маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў.

Усё гэта дала нам Партыя і Урад Польскай Народнай Рэспублікі. І ўсё, што мы здабылі забавязвае нас уносіць яшчэ большы ўклад, аддаваць яшчэ больш сіл у вялікую справу пабудовы сацыялізма ў Народнай Польшчы.

Разам з палякамі мы змагаліся за вызваленне, разам з імі цяжкай працай адбудоўвалі краіну, разам будуем сацыялізм і разам радасна святкуем нашае вялікае свята — Адраджэнне.

**УЛАДЗІМІР СТАНКЕВІЧ**
**старшыня Галоўнага Праўлення Беларускага грамадска - культурнага таварыства.**




Плакат Скуліча „15 год Народнай Польшчы"

БАРЫС НІКІЦЮК

## „У ІМЯ АЙЧЫНЫ"

У чэрвеньскую раніцу 1941 года маланкай разляцелася вестка аб узброенай агрэсіі гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз. З трывогай слухалі людзі першыя паведамленні па радыё. А тым часам па дарогах панаваў ліхаманкавы рух. Савецкая Армія, якая не чакала нападу, спешна арганізавала адступленне ў глыб краіны.

Падзеі развіваліся хутка. Кожная гадзіна вырашала лёс людзей. Добра ўзброеныя і матарызаваныя гітлераўскія войскі прыступілі да захопу тэрыторыі сучаснага Гайнаўскага павета. Мужна змагаліся савецкія салдаты. Найбольшыя бai былі каля вёсак: Хітрая, Борка, Дубічы Царкоўныя, Ягаднікі.

Трагічнае заканчэнне мелі бai каля вёскі Новаберазова. Частка савецкіх салдат апынулася ў акружэнні. Пачалася зацятая барацьба. Савецкія салдаты, адрэзаныя ад сваіх войск, адбівалі атакі непрыяцеля з поўнай самаахвярнасцю. Гітлераўцы кожную гадзіну падкідалі новыя сілы супроць геройчна змагаўшыхся савецкіх салдат. Сіла фашысцкіх войск вырашыла іх перамогу. Загінула больш 400 савецкіх салдат. Узятых у палон, іх перад смерцю дзікім чынам катавалі. Зразумела, не абыйшлося без ахвяр і з боку немцаў, якіх загінула больш 100.

Савецкі салдат грудзьмі бараніў зямлю Гайнаўшчыны. На палях баёў, якія вяліся на Гайнаўшчыне, загінула каля 3000 савецкіх салдат.

Ужо праз некалькі дзён пасля пачатку гітлераўскай агрэсіі вёскі і мястэчкі кішэлі ад немцаў.

**(Працяг на стар. 4)**

**З НАГОДЫ XV ГАДАВІНЫ НАШАЙ КРАІНЫ — ПОЛЬСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ ЎСІМ НАШЫМ ЧЛЕНАМ І СІМПАТЫКАМ ЖАДАЕМ ДАЛЕЙШЫХ ПОСПЕХАЎ У ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ І АСАБІСТЫМ ЖЫЦЦІ.**

**ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**З ВЫПАДКУ XV-ГОДДЗЯ УСІМ НАШЫМ ЧЫТАЧАМ І КАРЭСПАНДЭНТАМ СКЛАДАЕМ САМЫЯ САРДЭЧНЫЯ ВІНШАВАННІ.**

**РЭДАКЦЫЯ**

# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку № 14




УЛ. СТАНКЕВІЧ У 1930 Г. І ЦЯПЕР

## ВЕРШЫ зза КРАТАЎ

УЖО МІНУЛА 29 ГОД, КАЛІ ГЭТЫЯ ВЕРШЫ БЫЛІ НАПІСАНЫ. ІХ НАПІСАЎ У БЕЛАСТОЦКАЙ ТУРМЕ 20-ГАДОВЫ ПАЛІТВЯЗЕНЬ, КАМСАМОЛЕЦ УЛАДЗІМІР СТАНКЕВІЧ.

10 ГОД АДСЕДЗЕЎ ЮНАК ЗА ТОЕ, ШТО ХАЦЕЎ ЖЫЦЬ ПА-ЧАЛАВЕЧЫ І ЗМАГАЎСЯ ЗА ЛЕПШАЕ ЖЫЦЦЕ ПРАЦОЎНАГА ЛЮДУ. СВАЕ ДУМКІ ЎКЛАДАЎ У ВЕРШЫ. ЯНЫ — ДАКУМЕНТАЛЬНАЯ ПАМЯТКА ТЫХ ДЗЁН.

19 ГОД ВЕРШЫ ПРАЛЯЖАЛІ Ў ЗЯМЛІ. ЯНЫ БЫЛІ ЗАКАПАНЫ Ў 1939 Г. У ЧАСЕ ВАЙНЫ І ДА 1958 Г. НЕЛЬГА БЫЛО ІХ АДШУКАЦЬ.

СЁННЯ УЛАДЗІМІР СТАНКЕВІЧ — СТАРШЫНЯ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СТРАЧАНАЕ Ў ТУРМАХ ЗДАРОЎЕ, ПРЫМАЕ АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У БУДАЎНІЦТВЕ НОВАГА ЖЫЦЦЯ, ЗА ЯКОЕ ЗМАГАЎСЯ Ў ЦЁМНЫЯ ДЛЯ ПРАЦОЎНЫХ ЧАСЫ ПАНСКАГА ПАНАВАННЯ.

СЁННЯ УЛАДЗІМІР СТАНКЕВІЧ НЕ ПІША ВЕРШАЎ, АЛЕ НАДАЛЕЙ ЁН ЗАСТАЎСЯ ПРЫХІЛЬНІКАМ ПАЭЗІІ, І Ў ВОЛЬНЫ ЧАС ЛЮБІЦЬ ПАЧЫТАЦЬ НОВЫЯ ВЕРШЫ НАШЫХ МАЛАДЫХ ПАЭТАЎ.

### За што зноў за кратай?

З семнаццаці год палітвязнем я стаў,
Жыццё у няволі праходзіць.
У вастрозе ўся пройдзе так юнасць мая,
Пройдуць самыя лепшыя годы.

Не забіў я нікога, ні ў кога не ўкраў,
За кратай за што ж апынуўся?
Я волі хацеў і аб ёй лятуцеў,
К другому жыццю я імкнуўся.

Я знаю: на доўгія годы турмы
Засудзяць мяне зноў фашысты.
З пагардай прыму іхні вырак — турму,
Хай знаюць, бо я — камуністы!

Што значаць драконскія выракі тым.
Да волі хто ўпарта імкнецца.
Збліжаецца час ўжо свабоды для нас,
Мацней наша сэрца ўжо б'ецца.

### Як я жыву

Не вяліка мая хата
Й не багаты яе ўбор;
Жыву дарма ў ёй, без платы,
Дык няможна мець укор.

Шэсць шагоў яе уздоўжкі
Ўшыр лічыцці — тры шагі.
Цеснавата якась трошкі,
Трудна, час дзісь дарагі

За прасторнейшу дай грошы,
Скуль я, бедны, іх вазьму?
Тут без жадкае турботы
Я жыву на кошт казны

Кормяць, пояць, даглядаюць
Як ў гатэлі дзе якім.
Ці ня хворы ўсё пытаюць,
Дык жывеш сабе панком.

На сняданне літар кавы,
Да яе і хлеба фунт,
На абед, вячэру — стравы,
З голаду не памрэш тут.

І праветрыцца пускаюць,
Гэта «спацырам» завуць;
Вадой ў «лазні» паласкаюц
І бяллё нават дкюць.

Ў хаце мэбляў не замнога,
Але ўсё, што трэба, ёсць
Толькі вось ў куце святога
У маёй хаце няма штосьць.

Але можа так і трэба,
Бо ці ж месца яму тут?
Без ніякае патрэбы
Заваляў бы толькі кут.

І вакном хата багата,
Хоць высока, угары,
А фіранкай у ім крата —
Модны ўзор нашай пары.

Дзверы бляхаю абіты, —
Гэта каб было мацней;
Добра на замок закрыты —
Жыць каб было беспячней

Вось. браткі, і ўсё, здаецца,
Як жыву я вам сказаў.
Мо' каму з вас давядзецца
Жыць тут — скажа, што ня лгаў.

### Тав. РАЙХМАНУ

Чатыры гады Ты ужо у магіле
Спіш вечным сном у халоднай зямлі,
Ў падвале па-зверску Цябе задушылі,
Ад масаў працоўных Цябе аднялі.

І сёння вянкоў мы Табе не складаем,
І слёз над магілай Тваею не льем,
Душою, таварыш, Цябе ўспамінаем,
Гатовімся к помсце за мукі Твае!




Хмара цёмная спавіла
Сіняву нябесну.
Крутанула і завыла
Бура сваю песню

Я хаджу па цэлі цеснай,
Думы ў даль пускаю,
І людское буры песню,
Каб пачуць, чакаю.

### Я ГУСЛЯР МАЛАДЫ

Я гусляр малады,
Песні граю, пяю
Пра няволі гады
І пра долю сваю.

Гуслі — сэрца мае,
Іхні струны — душа,
Тоны думка дае,
Думку родзіць ціша.

Думкі рвуцца з грудзей,
Струны гусляў звіняць.
Тады песня гудзе
Тады мушу пяяць

Дык звінеце мацней,
Струны гусляў маіх,
Загрымі галасней,
Песня ў сценах глухіх!

Каб было цябе чуць
Там, за мурам турмы.
Дзе загоны гаруць
І дзе трубяць сурмы.

МІХАСЬ КУРАШ

## Сяргей Мінко

Быў гарачы ліпень 1944 года. Сонца не шкадавала сваіх праменняў і грэла так моцна, што на дрэвах лісце вянула і прагна чакала вечара, каб напіцца расы ды крыху астыць. Людзі заліваліся потам на працы ў полі. Але працавалі, бо прывыклі здабываць хлеб цяжкай працай рук сваіх.

Паволі надыходзіў вечар. Людзі вярталіся дахаты, каб з'есці кавалак чорнага хлеба, ды легчы хутчэй спаць.

Мне і бацьку не хацелася спаць. Мы вышлі на двор, селі на лаўку пад вязам, які стаяў ля нашай хаты. Ноч была ціхая. Праз галлё вяза прасочваліся бледныя праменні месяца, якія асвятлялі задуменны худы твар майго бацькі. Я чуў, як б'ецца яго сэрца. І хоць мне было тады толькі дзесяць гадоў, я здагадваўся, чаму бацька такі ўстрывожаны. Я ўспомніў, як ён учора мне гаварыў, што ўцякаюць немцы і што яны бязлітасна нішчаць усё: і людзей і людское дабро.

Нечакана я пачуў, што хтосьці асцярожна падыходзіць да вугла нашай хаты. Аб гэтым сказаў я паціху бацьку. Бацька адазваўся: «Хто гэта?..» Моўчкі падышоў да нас чалавек. Прывітаўся з намі і прысеў на лаўку да бацькі. Гэта быў Сяргей Мінко, селянін нашай вёскі. Апрануты ён быў у шэры з зрэбнага палатна касцюм. Ціха спытаўся ў бацькі, што чуваць у вёсцы, што гавораць людзі.

Сяргей Мінко быў сувязным партызанскіх атрадаў, размешчаных на ўскраі Белавежскай пушчы. Часам ён не прыходзіў дадому па некалькі дзён. Жонка плакала, наракала, нашто ён ходзіць у лес. Вядома, шкадавала мужа. Ёй нялёгка было б самой гадаваць шасцёра дзяцей, і ўсе такія, што адно другога не падыме.

Знялі Сяргея людзі ў цэлай аколіцы. Хто знаходзіў вінтоўку, жнучы жыта ці касіўшы луг, аддаваў яе Сяргею Мінко. Ён браў з падзякай і адносіў партызанам. Сяргей быў шчырым беларусам, ён любіў беларускую мову, дбаў аб яе развіцці. У 1940 годзе, будучы старшынёй сельсавета ў вёсцы Крыніца (цяперашняга Гайнаўскага павета), ён арганізаваў курсы навучання беларускай мовы для дарослых у навакольных вёсках.

Раніца была цёплая і ціхая. Пакрытая расою трава і зелле ў агародах блішчэлі ад праменняў узыходзячага сонца. Людзі ўжо не спалі. Хто моцна заснуў ноччу, той на хвіліну забыўся, што не ўцяклі яшчэ нямецкія фашысты.

Бацька глянуў у акно, з якога відаць было другі канец вёскі, і нечакана голас яго задрыжэў: «Паглянь... немцы ходзяць...»

Па спісу, які меўся ў СС-манаў, Сяргея Мінко прывялі першага. Пасля прывялі ў канец вёскі яшчэ дзевятнаццаць чалавек. Па чарзе клалі на лаўку і білі. Калі прышла чарга на Міколу Цесліка, старога вопытнага чалавека, які ведаў крыху нямецкую мову, ён запытаўся ў СС-манаў, за што яны катуюць людзей. Гэтыя яму адказалі, што пакліка-

(Працяг на стар. 4)

# НАД РАКОЙ СІДАРКАЙ

З невялікага ўзвышша, на якім стаіць вёска Хілімоны, раскрываецца цудоўная панарама. Унізе вёскі, як вокам кінуць цягнецца раўнінны пас балоцістых сенажацяў. З высокага трасніку ды аеру балоцістая раўніна дзе-ні-дзе паблісквае мутным вокам лянівай Сідаркі. А за балотамі ў сіняве гарызонта чуць прыкметна відаць вёскі: Гарасімавічы, Астрове, Крапіўна. Яшчэ далей Стоцк і шэрыя вежы Ружанастоцкага касцёла, памяткі па славутым некалі манастыры. Па другі бок вёскі цягнуцца гарыстыя, пяшчаныя палі.

Бедна тут жылі людзі. Пяшчаная зямелька слаба давала хлеба. Тысячы гектараў дрыгвястых балот, дзе пладзіліся мільёны куслівых камароў, таксама не давалі амаль ніякай карысці. Хіба толькі сонна - лянівая Сідарка, у якой час-ад-часу ўдавалася падхапіць кломляй зубастага шчупака або жоўта - залацістага ліня ці карася, была прыяцелем чалавека. Але і да яе не заўсёды пускалі балоты.

І так спакон вякоў сама прырода крыўдзіла чалавека.

— Такі ўжо наш лёс, — гаварылі некалі ў Хілімонах. З аднаго боку пяскі, як на пустыні, а з другога — дрыгва. Паспрабуй разжывіся тут.

Але вось аднойчы на балотах з'явіліся людзі з мярнічымі прыладамі.

— Куды ж яны лезуць, — затрывожыліся ў вёсцы. Яшчэ патопяцца к чорту.

Да балот кінулася грамадка цікаўных хлапчукоў. І хутка па вёсцы паляцела вестка: будуць меліяраваць балоты.

— Якая ж можа быць «меліярацыя», калі тут нагі не паставіш, засмоктвае, — гаварылі вясковыя дзядулі - скептыкі.

Але за мярнічымі на балоты прыйшлі групы рабочых з рыдлёўкамі, пачалі капаць. Хутка да іх далучыліся мужчыны навакольных вёсак (за гэтую працу дзяржава плаціць нядрэнна) і балоты пачалі здавацца, асыхаць.

Частку асушаных балот загаспадаравалі. Трава вырасла тут небывалая. Напрыклад, грамадзянін Кананові з Гарасімавіч з няцэлага гектара загаспадараванай сенажаці збірае цяпер 7—8 добрых вазоў сена. Такіх сялян у Гарасімавічах, Хілімонах і іншых вёсках па меры таго, як разгортваюцца меліярацыйныя работы, становіцца ўсё больш. Гэта дае магчымасць галоўным чынам павялічыць жывёлагадоўлю. Адначасова праводзіцца рэгуляцыя ракі Сідарка. Яна выпростваецца, становіцца роўнай, і воды яе цякуць жывей, весела пабліскваючы на летнім сонцы.



Жывей пацякла Сідарка

Урад і партыя кладзе вялікі націск на меліярацыю. У сучасны момант, мусіць няма такога павета ва ўсёй краіне, у якім не праводзілася б меліярацыйных работ. Шмат месца меліярацыйным справам прысвячалася на II-гім Пленуме ПАРП. Прынята пастанова, якая прадбачвае ў гадах 1961 — 1965 павялічыць наклады на меліярацыю ў 2,2 разы ў параўнанні з сучаснай пяцігодкай. На меліярацыйныя працы ў гэтыя гады прызначаецца звыш 17 мільярдаў злотых. Але толькі дзяржаўнымі сродкамі цяжка выканаць гэтую грандыёзную работу. Таму партыя лічыць на дапамогу сялян і ў асаблівасці на вясковую моладзь. І трэба сказаць, што ў розных мясцовасцях нашай краіны сяляне аддана рэалізуюць грамадскія абавязацельствы. Але яшчэ не ўсюды. Вось, напрыклад, сяляне вышэй успомненых вёсак усё яшчэ спадзяюцца толькі на дзяржаўныя сродкі ў меліярацыйных працах. Не было тут яшчэ ніводнага грамадскага абавязацельства. У Хілімонах, Гарасімавічах і акалічных вёсках ёсць шмат моладзі. Шмат часу яна праводзіць бескарысна. Чаму б, напрыклад, не арганізаваць тут маладзёжных брыгад па меліярацыі. Такія брыгады маглі б быць ў кожнай вёсцы. Намечаная партыяй праграма хутчэй тады рэалізавалася б, а карысць перш за ўсё самім жыхарам вёсак.

— Ну так, але на гэта патрэбны арганізатары, — скажа нехта.

У Дуброўскім павеце яны знойдуцца, абы ахвота.

**Тэкст і фота — В. БАРШЧЭЎСКІ**



На дрыгвястых балотах з'явіліся людзі з мярнічымі прыладамі.

# СЯРГЕЙ МІНКО

(Працяг са стар. 3)

ныя людзі абвінавачаны ў тым, што скасілі луг у лесе на дэпутаце Кайдэвіча, які быў лясніком у немцаў. Яшчэ сказалі, што гэта ўсе партызаны, а Сяргей Мінко з'яўляецца іх правадыром. Так было запісана ў СС-манаў у чорнай кнізе. Трэба сказаць, што хаця актыўна дапамагалі партызанам усе жыхары нашай вёскі, аднак партызанамі ўсе не былі. Сапраўдным партызанам быў толькі Сяргей Мінко.

Добра ведаў аб гэтым даносчык, які напісаў, што Мінко нельга пусціць жывым. Так і зрабілі лютыя фашысты. Сяргея пасадзілі на фурманку.

Жонка Ганна не магла нават пабегчы за падводай, на якой сядзеў яе муж Сяргей. СС-маны сказалі ёй, што заб'юць, калі яна будзе за імі бегчы. Не сказалі ёй, куды павязуць мужа. На другі дзень пайшла яна ў гестапа ў Свінараях і ёй сказалі, што цела Сяргея знаходзіцца ў лесе на Парпілах (так называюць у нас частку лесу, што знаходзіцца каля гасцінца, які вядзе ў Нараўку).

Тры дні шукала Ганна Мінко са сваімі дзяцьмі і суседзямі цела свайго мужа. Яна сама і натрапіла на яго. Ляжаў з павыкручванымі рукамі і нагамі, павыколванымі вачыма.

І зноў была ціхая раніца, сонейка свяціла прыгожа. Усё сяло праводзіла Сяргея Мінко ў астатнюю дарогу.

# „У ІМЯ АЙЧЫНЫ"

(Працяг са стар. 1)

Жыццё ў няволі было неспакойным, яно пазбаўляла людзей упэўненасці ў заўтрашні дзень. Чалавек адчуваў сябе нібы аглушаным такім вялікім няшчасцем. Пачаліся дні нямецкай улады грабяжамі, забойствамі, пагромамі...

Немцы ставілі сваіх бурмістраў, солтысаў, падсолтысаў. Галоўным ядром новых органаў гітлераўскай улады з'яўляліся даваенныя кадры санацыйнай адміністрацыі. Гэтыя людзі характарызаваліся нянавісцю да камунізма і лаяльнасцю да ўлады капіталу. Гэтая сетка гітлераўскай улады была прызначана перш за ўсё для выкрывання камуністаў і іх прыхільнікаў.

Каб адцягнуць увагу працоўных людзей ад барацьбы з гітлерызмам, развіваўся ўсялякім спосабам нацыяналізм і шавінізм. Але нягледзячы на ўсялякія старанні, акупантам не ўдалося распаліць нацыяналістычнай варожасці. Палякі, беларусы, яўрэі, рускія, якія жылі на гэтай тэрыторыі, стварылі супольны фронт барацьбы за грамадскае і народнае вызваленне. Толькі асобныя людзі пайшлі на супрацоўніцтва з гітлераўцамі.

Асаблівай жорсткасцю вызначыўся ў першы перыяд нямецкі бурмістр Нараўкі Станіслаў Салавей. Сабраў ён усіх санацыйных солтысаў са свайго раёна і загадаў ім зрабіць спіскі былых членаў «Грамады», КПЗБ, ВКПБ, камсамольцаў, працаўнікоў савецкай адміністрацыі. Большасць з солтысаў не выканала загаду бурмістра. Аднак знайшоўся солтыс з Лукі, які ўжо на другі дзень зрабіў спісак людзей, якіх падазраваў у сімпатыі да камунізма, і перадаў мясцоваму аддзелу гестапа.

Падзеі развіваюцца маланкава.

10 ліпеня 1941 г. гітлераўцы зрабілі аблаву, захапіўшы 18 асоб з Лукі і Тарнопаля. Арыштаваных сагналі ў Тарнопальскі лес, дзе варварскі забілі іх звычайнымі палкамі.

Сярод паўшых ахвяр знаходзіліся: дэпутаты ў сельсавет — Цімафей Анцутка, Язэп Вільчык сын Мікіты, Іван Садоўскі, Іван Бура, Уладзіслаў Лаўнічук, Язэп Васілюк сын Якуба, Марыя Новік дачка Юльяна, савецкі доктар і сястра—акушэрка, а таксама і іншыя.

У забітых былі паразбіваны чарапы, паламаны рукі, ногі, рэбры, павыбіваны вочы і зубы.

Язэп Васілюк спрабаваў уцякаць, але дагнала яго гітлераўская куля. Паўжывых людзей укінулі ў яму і засыпалі зямлёю. У той час былі расстраляны з Нараўкі Аляксандар Чарнецкі, трое Стульгісаў, Павел Красноўскі і Павел Лапінскі.

У ліпені гэтага года гітлераўцы расстралялі каля Васькоў больш сарака асоб. Тады, між іншым, загінулі: Цімафей Садоўскі, Серафім Ляўчук з Тынявіч Вялікіх, Філіп Асташэўскі з Тынявіч Малых, Нікіта Ярмошок, Барыс Гаўрылюк з Каменя.



Вольга Габец з Белавежы, замардаваная гітлераўцамі.

Падобна выглядала сітуацыя і ў раёне Белавежы, Гайнаўкі, Нарвы і Кляшчэль. У Белавежы першай ахвярай быў дэпутат сельсавета Даніла Дронь. Праз некалькі дзён былі арыштаваны і расстраляны дзеячы КПЗБ Афанасій Турык, Афанасій Пекач, а таксама грамадскія дзеячы: Уладзімір Шахалевіч, Павел Валкавыцкі, Сцяпан Смактуновіч, Ігнат Вашкевіч і 10 іншых.

А хутка забілі Станіслава і Язэпа Даротаў, Пятра Дацкевіча, Мікалая Валкавыцкага, Афанасія Байко, Сцяпана Вашкевіча, Соф'ю Шпаковіч, Аляксандра Зелянюка, Лідзію Вашкевіч, Аляксандра Пісарэвіча, Мікалая Шпаковіча, Тацьяну Байко, Уладзіслава Данэка, Мікалая Падлашчыка, Аляксея Валкавыцкага, Міхаіла Міхальчука, Паўла Падлашчыка, а ў тым ліку выдатных дзеячоў Вольгу Габец і Рамана Бароўскага.

У кастрычніку 1941 года ў Белавежы на чыгунцы былі расстраляны 24 асобы. Большасць з іх — гэта былі працаўнікі савецкай адміністрацыі.

Сітуацыю ў гэты перыяд характарызуе «Гайнаўскі рабочы» — орган Гайнаўскага нелегальнага раённага камітэта КП(б) Б №23 ва ўступным артыкуле пад загалоўкам: «Да працоўных Гайнаўскага раёна».

«Сэрца сціскаецца ад

 

# Аб ральнічых гуртках Гайнаўшчыны

У Гайнаўскім павеце налічваецца 35 сельгасгурткоў з 630 членамі, 28 гурткоў вясковых гаспадынь з 180 членамі, ды 4 бранжавыя аб'яднанні.

На прыкладзе вопыту з мінулага года, у цякучым годзе было арганізавана 89 конкурсаў у 23 вёсках.

Да конкурсаў прыступіла 700 гаспадароў. Незалежна ад гэтага арганізавана дадаткова 24 конкурсы жывёлагадоўчай прадукцыі з удзелам 143 канкурсістаў. Акрамя гэтага арганізавана 28 гурткоў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі І і ІІ ступені, ахопліваючых 230 чалавек.

Конкурсную дзейнасць папярэдзіла асенне - зімовае навучанне сялян, у рамах якога праведзена 192 гутаркі на сельскагаспадарчыя тэмы

У доказ добрай дзейнасці гурткоў з конкурснай сістэмай прывядзем некалькі прыкладаў з 1958 г.

Гурток сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў вёсцы Стараберазова дасягнуў 680 цэнтнераў з 1 га кармавых буракоў, у Арэшкаве гурток атрымаў з 1 га 220 цэнтнераў бульбы, а Аб'яднанні ў Тарнопалі і Жуках атрымалі ўраджай бульбы па 230 цэнтнераў з 1 га, вядучы пры гэтым вопытныя палеткі з вырошчваннем кармавой капусты і люцэрны.

Такога высокага ўраджаю яшчэ не было ў неаб'яднаных гаспадарствах Гайнаўскага павета, хаця ён з'яўляецца выключна сельскагаспадарчым.

Несумненна, што для паказання такой магчымасці атрымання ўраджаю трэба было пераканаць сялян, у сувязі з чым арганізавана была 3-днёвая экскурсія ў Пулавы (Люблінскае ваяводства) з удзелам 40 членаў, прадстаўляючых паасобныя аб'яднанні з павета. Наведалі яны, м. іншым, Інстытут апрацоўкі зямлі, Вопытную станцыю і Інстытут садаводства. Экскурсія была вельмі карысная.

Апрача гэтага, у мінулым годзе сярод гурткоў вясковых гаспадынь было арганізавана 12 конкурсаў крою і шыцця, на якіх вучылася 155 жанчын. Праведзена 13 конкурсаў пячэння з удзелам 169 жанчын. У 5 выпадках арганізаваны быў паказ вырабаў і мясной перапрацоўкі, дзе ўдзельнічалі 72 жанчыны.

Арганізавана было яшчэ ў 7 выпадках закладанне ворыўных агародаў, конкурсы чыстаты ў памяшканнях і сядзібах.

35 існуючых сельгасгурткоў у Гайнаўскім павеце ўзяло і загаспадаравала 105 га зямлі, якая належала да Дзяржаўнага фонду зямлі і на 87 га зляжылі запатрабаванні.

У вёсках Старакорніна і Макаўка сельгасгурткі ператварыліся ў прадукцыйныя спулдзельні, а ў Вялікіх Тынявічах члены сельгасгуртка загаварылі аб патрэбе арганізавання спулдзельні прадукцыйнай.

Сельгасгурток у Палічнай пастанавіў пераняць у сваё гаспадараванне грунт ад Дзяржаўнага фонду зямлі, става і незагаспадараваныя паспулдзельчыя забудаванні, устанаўліваючы пры гэтым зернадрабілку на свае патрэбы. У вёсцы Курашава сельгасгурток гаспадарыць ужо на 27 га грунтаў. Куплены там агрэгат для малацьбы, сеўнікі і будуецца шопа для пераховўкі сельскагаспадарчых машын.

Сельгасгурткі павінны працаваць яшчэ актыўней, беручы на сябе заданне распаўсюджання сваіх дасягненняў і сярод іншых сялян, не арганізаваных у гурткі.

ІДЗІ ДЗЕЦЯНТКОЎСКІ
Гайнаўка

## Аб „Руні" гавораць у Маскве...

**18 чэрвеня «Літаратурная газета» — орган праўлення Саюза пісьменнікаў СССР надрукавала заметку пад загалоўкам «Першы ўраджай», якая прысвечана нашаму зборніку вершаў. Газета змяшчае ўрывак з уводнага слова «Руні» і знаёміць сваіх чытачоў з аўтарамі зборніка, а таксама з нашым літаратурным аб'яднаннем, «Нівай» і Таварыствам. Гаворачы аб аўтарах «Руні», «Літаратурная газета» адзначае: «Іх розныя па тэмах і жанрах вершы — першы ўраджай, сабраны на жыватворчай ніве беларускай паэзіі ў Польшчы».**

## ... І Ў ВАРШАВЕ

**23 чэрвеня студыя Польскага радыё ў Варшаве перадала карэспандэнцыю свайго беластоцкага прадстаўніка аб «Руні». Хоць карэспандэнцыя мела агульнаінфармацыйны характар, у ёй адзначалася творчасць паасобных аўтараў. На першым месцы пастаўлены вершы Яшы Бурша.**

**«Беларускія вершы». Пад такім загалоўкам 28 чэрвеня змясціла «Трыбуна Літэрацка» кароткую інфармацыю аб выхадзе ў свет зборніка нашых паэтаў. Апрача гэтага, газета падае загаловак зборніка, лік аўтараў, выдаўца і адзначае, што гэта першы беларускі, паэтычны зборнік, выданы ў Польшчы пасля вызвалення.**

**Таксама «Пшыязнь» за 5 ліпеня змясціла заметку аб «Руні» пад загалоўкам «Рунь».**

**«Можна спадзявацца, — адзначае тыднёвік, — што выданне яго (зборніка — рэд.) адыграе пэўную ролю ў ажыўленні культурнага жыцця сярод беларусаў Беласточчыны».**

**«Шчыра віншуем аўтараў гэтага несумненнага дасягнення і сардэчна жадаем далейшых», — піша «Пшыязнь».**

**Тыднёвік змяшчае таксама вокладку нашага зборніка. (рл)**



У дарозе...

Фота — В. Баршчэўскі

## ПЯРУН ВЫЛЕЧЫЎ

Незвычайны выпадак здарыўся ў вёсцы Пераходы, Беластоцкага павета, у мінулым месяцы, калі над аколіцай праходзіла хваля бур.

Грамадзянка Алеся Паплаўская ляжала з дзяцьмі на ложку. На дварэ асляпляюча бліскалі маланкі, грымеў гром. Ляснула так, што аж у вушах зазвінела. Са звонам пасыпаліся выбітыя шыбы, у шчэпкі разляцелася аконная рама. У кухню Паплаўскай уварваўся пярун. З кухні праз адчыненыя дзверы ён уляцеў у пакой. І раптам усе чатыры ножкі драўлянага ложка, на якім ляжала Паплаўская з дзяцьмі, разляцеліся на дробныя кавалачкі, а пярун, прайшоўшы па іх схаваўся ў зямлі. Перапалоханая да смерці жанчына і дзеці зусім не пацярпелі. Грамадзянка Паплаўская доўгі час хварэла рэўматызмам. Пасля гэтага незвычайнага выпадку, рэўматызм яе зусім не мучыць і адчувае сябе яна, як сама кажа, на 10 год маладзейшай. (вб)

болю, калі ўспамінаем, што нарабіў у сваёй дзікай нянавісці фашысцкі акупант. Спалілі і цалкам знішчылі такія вёскі, як Масева, Ціхаволя, Тушэмля, Тэраміскі, Буды, Пагарэльцы, Скупава і дзесяткі іншых вёсак, а іх жыхароў выгналі з раёна на прымусовую працу.

А за што немцы павесілі вядомага лекара Гайнаўкі, тав. Андрушкевіча, а за што яны расстралялі Сцяпана Смактуновіча, Івана Байка і дзесяткі іншых? — толькі за тое, што яны не хацелі быць нявольнікамі немцаў».

Акупанты забілі ў гэтым жа годзе 14 асоб у Старым Беразове. Сярод забітых былі, між іншым: Мікалай Яноўскі, Г. Скепка, Кубайчык, Рыгор Трашчотка. У грамадзе Палічна былі расстраляны, між іншым: М. Маеўскі, Андрэй Казачук, Сямён Лукашук. а Мікалая Пратасевіча гітлераўцы павесілі на дрэве.

У Гайнаўцы гітлераўцы забілі Васіля Рабчука, Васіля Цурканова, Станіслава Вітчака, Сяргея Сланіцкага, Аляксандра Чарнецкага, Станіслава Сапейку, Леона Вільчака, мужа і жонку Бурак, Журкевіча, Язэпа Сапейку. Сярод іх загінулі левыя дзеячы ППС міжваеннага перыяду ў Гайнаўцы: Марыян Зох, Вікенцій Каладзей, Мечыслаў Уліцкі, Аляксандар Васілюк, Уладзіслаў Кшыўда, Ян Патэр, Юліуш Сікінгер.

Масавыя забойствы былі паўсядзённым сродкам тэрору. Гітлераўскія акупанты ліквідавалі людзей па малейшаму падазрэнню.

У канцы 1941 года фашысты па загаду Гітлера забівалі савецкіх ваеннапалонных у Белавежы і ў Гайнаўцы. Жыхары Белавежы добра памятаюць страшныя карціны гэтага забойства. У ліпені 1941 г. гітлераўцы гналі некалькі соцень палонных па вуліцы Белавежы. Знясіленыя катаваннямі і голадам паміралі палонныя. Усіх найбольш слабых гітлераўцы расстрэльвалі. На нагіх палонных спускалі сабак, якія рвалі цела палонных на кавалкі, а пасля гэтага людзей дабівалі з пісталетаў. Гітлераўцы ганарыліся сваімі злачынствамі і крычалі на ўвесь голас: «Гляньце, як здыхаюць рускія!».

Ужо з першых дзён акупацыі гітлераўцы прыступілі да біялагічнага знішчэння яўрэяў. У жнівені 1941 г. гітлераўцы расстралялі ў лесе за Нараўкай каля 500 мужчын ад 10 год. Жанчыны былі вывезены ў Ружану. У той час было расстраляна больш 3000 яўрэяў з Гайнаўкі за Белавежай. У ліпені 1941 г. каля 300 яўрэяў было забіта ў Белавежы. Адносіны гітлераўцаў да яўрэйскага насельніцтва мелі найбольш дзікі і варварскі характар.

Злачынствы гітлерызма, забойствы, паленне вёсак абудзілі ў народа жаданне арганізаванай барацьбы. Ужо ў месяцах ліпені, жніўні і верасні 1941 г. пачынае развівацца падпольны рух на Гайнаўшчыне. Ідэйным арганізатарам гэтага руху былі перш за ўсё дзеячы «Грамады», КПЗБ, ППС — левыя, члены ВКПБ, застаўшыеся савецкія афіцэры. У канцы ліпеня 1941 г. у глыбокай канспірацыі дзейнічаў ужо Гайнаўскі Антыфашысцкі камітэт.

Адным з першых быў створан антыфашысцкі камітэт на начным сходзе ў вясковай стадоле ў Дубінах. Іван Верамюк, вопытны канспіратар, дзеяч КПЗБ сабраў найбольш давераных людзей і расказаў ім аб сітуацыі на фронце. Тлумачыў ён вельмі спакойна і дзельна, так што яго словы траплялі да сэрца кожнага. Члены камітэта ў Дубінах наладзілі сувязь з камітэтамі ў Гайнаўцы, Шастакове і Навасадах. У канцы 1941 г. працавалі ўжо камітэты ў Старым Беразове, Белавежы, Збучы, Кляшчэлях, Міхноўцы, Шастакове, Дашах, Паграбах, Семяноўцы, Нарве, Нараўцы, Горным, Арэшкаве. Тайна збіраліся, дыскутавалі, хавалі зброю па лясах і палях, якую падрыхтоўвалі да барацьбы супраць акупанта. Збіранне зброі набыло масавы характар. У кожнай вёсцы сяляне мелі закапаныя карабіны, пісталеты і інш. Між іншым, Гіншт Міхаіл у Горным закапаў некалькі карабінаў і некалькі соцень набояў, М. Галёнка ў Арэшкаве — РКМ з некалькімі дыскамі набояў, Канстанцін Новік — значную колькасць набояў і пісталетаў. Аляксандар Юрчук, Сцяпан Койла, М. Койла, Рыгор Саевіч, Цярэнцій Яноўскі, Іван Еўдасюк, Мікалай Бобка, Пётр Гушча, Тодар Грэдэль, Антон Нікановіч, Канстанцін Засім, Аляксандар Панкоўскі, Сцяпан Назарук, Тодар Бяглюк, Аляксей Кучко, Дзмітры Несцярук, Язэп Пляскові́ч, Уладзімір, Юзючук, Аляксей Рошчанка, Міхаіл Герасімюк, Васіль Стасінкевіч, Ігнацюк і многа іншых з тэрыторыі Гайнаўшчыны бралі ўдзел у збіранні і захаванні зброі і амуніцыі.



Афанасій Пекач з Белавежы, замардаваны гітлераўцамі.

(Працяг будзе)



 




## Сатыра ў канспірацыі

З выпадку свята Адраджэння Польшчы 22 ліпеня наша старонка гумару і сатыры прысвячаецца сатыры з гадоў 1939 — 1944, калі насельніцтва Польшчы змагалася з гітлераўскім фашызмам. Мусіць не было такой краіны і гістарычнага перыяду, у якім сатыра стала б такой магутнай палітычна - вызваленчай зброяй, як у Польшчы падчас акупацыі.

Як агонь артылерыі знішчае ворага, так польская сатыра маральна знішчала гітлераўцаў, затое ўзнімала гонар, і маральны ўзровень і бадзёры дух у ваюючых палякаў.

Яна адлюстроўвала ўсе праявы палітычных і гаспадарчых падзей як у краіне, так і ва ўсім свеце.

У 1958 г. была выдана Міністэрствам Нацыянальнай Абароны (II выданне) кніга пад загалоўкам «Сатыра ў канспірацыі», якая з'яўляецца каштоўным гістарычным дакументам, адначасова багатым літаратурным і мастацкім творам. У ёй сабраны сатырычныя вершы, эпіграмы, пашквілі, малюнкі створаны падчас акупацыі накіраваныя супроць немцаў, усіх заправіл фашызма і плюгавых здраднікаў польскага народа. Неімаверным можа здавацца факт, што іменна ў Генеральнай Губерні, дзе кішыў самы страшны тэрор, знайшліся людзі, якія наражаючы жыццё ў падполлі займаліся выдавецтвам... гумару — сакавітага, сочнага гумару.

Заданнем польскай сатыры было разагнаць жах і ўсю чорную роспач, якую сеяў у краіне акупант, абсмяяць ворага, паказаць яго бяссільным, баязлівым і з усімі іншымі адмоўнымі прыкметамі.

Ніжэй змяшчаем некалькі малюнкаў і гумараў з кнігі «Сатыра ў канспірацыі 1939—1944 г.».




БЕЗ СЛОЎ




— Аддай, што не тваё. [illegible]ызм трэба абнажыць, каб убачыць, што ён варты ў істоце.

## Праявы жыцця ў Генеральнай Губерні



















**АНЕКДОТЫ НЯМЕЦКІЯ, ЯКІЯ БЫЛІ РАСПАЎСЮДЖАНЫ Ў ГЕРМАНІІ І СЯРОД НЕМЦАЎ У ПОЛЬШЧЫ.**

### ЗДАГАДАЎСЯ

— Уяві сабе, што Гітлер, Гебельс і Герынг паплылі караблём на Паўночнае мора. Раптам... карабель, трапіўшы на міну, патанае. Хто, па-твойму выратаваўся?

— Германскі народ.

### РАСТЛУМАЧЫЎ

Гітлер і Герынг стаяць на балконе IV паверха і спрабуюць акрэсліць паняццё няшчасця і катастрофы. Пасля доўгіх спрэчак выклікалі рабіна на дапамогу. Рабін высняе ім:

— Калі балкон абарвецца, будзе няшчасце, але, як не абарвецца, тады будзе катастрофа.

### ВЯЛІКІЯ І МАЛЫЯ ДАЎГІ

Гітлер, праязджаючы на ўсходні фронт, выскачыў на адной з невялікіх станцый у Польшчы. Служба не ведаючы аб тым, пусціла цягнік у далейшы курс.

Гітлер застаўся сам у штацкім адзенні без дакументаў і грошай. Першай асобай, якую спаткаў, аказаўся стары яўрэй. Убачыўшы Гітлера ён кланяецца ветліва.

— Дзень добры, пане Гітлер.

— Як ты мяне пазнаў?

— Хто б такую вялікую асобу не пазнаў.

— Слухай, ты, я знайшоўся ў вельмі цяжкіх абставінах. Пазыч 500 злотых.

— Чаму не, пазычу — згаджаецца яўрэй.

— Здзівіўся Гітлер і пытае:

— Такі ты ветлівы, а што будзе, як я табе не аддам іх?

— Ой, пане канцлер! Вы ўсю Еўропу вернеце, а такіх 500 злотых не аддалі б?

## ПЯТНАЦЦАЦІГОДДЗЕ

Падумаць толькі, пятнаццаць год праляцела, як страла з лука.

У год вызвалення ў суседа сыночак нарадзіўся, а цяпер ходзіць 15-гадовы герой. Бацькі не могуць уціхамірыць сына (дзеці заўсёды разумнейшыя за бацькоў).

Гавару я суседзям: «Людцы добрыя, не хвалюйцеся, будзе з сына чалавек. У салдаты пойдзе, розуму набярэцца, дысцыпліне навучыцца, паважаць старэйшых прывыкне, за роднай хатай пасумуе. Нашае ж войска, як універсітэт народны. Бяруць рэкрута цяльпука, а зварочваюць падафіцэра.

Зразумела, 15-гадовыя дзеці не могуць памятаць, што нашая зямля перацярпела.

Агнём нашую зямліцу палілі. Народнай крывёю аблівалі. Снарадамі, бомбамі ўзрывалі. Танкамі таптралі.

Пятнаццацігадовы час раны залізаў. Гляньце цяпер, людзі мілыя, якія нівы каласістыя шумяць на нашай зямлі.

Прызвычаіліся мы ў юбілейныя гады падлічваць дасягненні. Беласток адбудаваўся. На Фастаўскім камбінаце тысячы людзей варушацца мурашкамі, а было там голае месца. Буг з Віслай жэніцца. Вісла з Дняпром парадніцца. З Кракава ў Магілёў паплывеш без перасадкі. На развітанне нам рачная чайка серабрыстым крылом памахае, — значыцца, шчаслівая дарога наперадзе.

Слухаючы падобнае, скептыкі скажуць: «Знаёма ўсё гэта, індустрыялізацыя, сацзберажэнні, а што выйграў шэранькі чалавек за гэтыя пятнаццаць год?»

Не ведаю, грамадзяне-скептыкі, аб якіх выйгрышах вы думаеце! Зразумела, за гэты час многія людзі выйгралі ў розных тотка-сірэнках і іншых латэрэях.

Галоўны выйгрыш выпаў пятнаццаць год таму назад, калі наш чалавек свабоднае жыццё выйграў.

Цяпер гэты шэры чалавек працуе спакойна. Не баіцца начнога стуку ў дзверы — прыкладамі. Забыта слова «пацыфікацыя». Моладзь падрастае спакойна, прымусовых прац у чужым краі не чакае.

Жонкі нашыя на рынак х дзяць і шчасліва вяртаюцца, ніякія аблавы ім не пагражаюць.

Іменна аб гэтым карысна прыпомніць у пятнаццацігоддзе. А што ў нас яшчэ не ўсё на апошні гузік зашпілена — гэта не бяда.

Жыццё нашае наперадзе і паспеем з гузікамі справіцца.

Дзядзька Лявон.